## БЕЛАРУСКАЯ ВАЙСКОВАЯ КАМІСІЯ.

РЭГУЛЯМІНОВА-ШКОЛЬНАЯ ПАДКАМІСІЯ.

# Восемтыднёвая Праграма Вышкаленьня Рэкрута Пяхоты




ЛОДЗЬ.
Друкарня З. Шаладаеускага.
1921

**БЕЛАРУСКАЯ ВАЙСКОВАЯ КАМІСІЯ.**

РЭГУЛЯМІНОВА-ШКОЛЬНАЯ ПАДКАМІСІЯ.

---

# Восемтыднёвая Праграма Вышкаленьня Рэкрута Пяхоты

ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСКАЕ ВАЙСКОВАЕ КАМІСІІ



ЛОДЗЬ.
Друкарня З. Шаладаєускага.
1921

Арыгінал, з якога зроблен пераклад, зацьверджаны Міністрам Вайсковых справаў 19. 10. 1919 г. № 825 Дэп. I/Вк.

---

Пераклад з польскага:

„Ośmiotygodniowy Program Wyszkolenia Rekruta Piechoty“.

**Гэтая праграма зьмяшчае у сабе вось якія часьці:**

1. Агульныя прынцыпы.
2. Парадак дня.
3. Інструкцыі да парадку дня.
4. Расклад прадметаў на тыдні.
5. Прымерны плян лекцыі па гісторыі Беларусі.
6. Апісаньне і інструкцыі дарогі перашкодаў і штурмовага пляцу.

# ВОСЕМТЫДНЁВАЯ ПРАГРАМА ВЫШКАЛЕНЬНЯ РЭКРУТА ПЯХОТЫ.

## Агульныя прынцыпы.

Умешчаныя паказі характарызуюць ідэю кожнага з аддзелаў вышкаленьня, адносна прадметаў тэорэтычнай навукі і паказваюць, як паступова дасягаецца поўнае вышкаленьне.

Поўнае вышкаленьне рэкрута трывае восем тыдняў.

Заданьне яго — гэта падгатаваць рэкрута на здатнага жаўнера для ўжытку ў полі.

Ідзе яно да выработаньня ў жаўнера моральнае сілы, фізычнае вытрымаласьці і тэхнічнае спраўнасьці, а так сама прышчапляецца ў яго душу даверчывасьць да сваіх камандзераў. Наагул—да выработаньня сільнага спэцыяльным вышкаленьнем, самастойнага і пры гэтым пакорнага падкаманднага.

Дзеля гэтага, трэба вымагаць ад рэкрута бязумоўнай паслухнянасьці і ўвагі, а так сама, калі трэба, поўнае

натугі сіл. Паступова павялічваючы вымаганьні, ўжо ад першых дзён сыстэматычна прызвычайваць яго да будучых ваенных трудоў.

Трэба зьвяртаць увагу на спакой, парадак і так сама на акуратнае спаўненьне загадаў і даручэньняў. Строга захоўваючы правілы, рэгуляміны, спаўняць іх, аднак, мэханічна, але мэтазгодна прытарноўваць да варункаў і акалічнасьцяў.

Парадак дня павінен быць так зроблены, каб, з аднаго боку, жаўнер ня нудзіўся, а з другога боку, каб яго ня змушаць да фізычнага зморанья. Дзеля гэтага трэба асьцярагацца монотоннага способу вучэньня, што морыць розум і цела. Трэба весьці вучэньне ў тэмпе жывым, паступова, часта зьмяняючы прадмет і месца вучэньняў, а, дзе будзе патрэба, ў зразумелай жывой форме апавяданьні з рознымі прыкладамі з штодзеннага жыцьця жаўнера і г. д.

Вучыць кожнага рэкрута паасобку, каб гэтым способам вырабіць магчыма найбольшую самадзейнасьць ў рамах пакорнасьці і вайсковай дысцыпліны.

Вучэньне пачынаць ад паўтараньня папярэдніх вучэньняў і прымяняць

мэтоду толькі наглядную, прыводзячы шмат прыкладаў, ілюструючы кожную драбязу.

Паасобныя інструктары павінны весьці свае вучэньні аднастайна, каб рэкруты маглі ўявіць аднальковую ваенную сыстэму мысьленьня і дзеяньня.

Трэба добра наглядаць, каб цераз цэлы час трываньня навукі утрымаць павольны настрой рэкрута, поўны веры і пашаны да сваіх кіраўнікоў. Дасягнуць гэтага можна праз адпаведную практыку пры добрай волі і захоўваньні рупнасьці, праз сыстэматычнае разьвіцьцё сілы духа і цела з поўным выкарыстаньнем часу, пры ахвотнай дапамозе афіцэраў і шэрэнговых інструктароў.

Каб мэтазгодна выкарыстаць кароткі час вышкаленьня, трэба штодня перарабляць з інструктарамі ўвесь матар'ял, які становіць праграму заняцьцяў чарговага дня.

Гэтая праграма адрозьнівае дзьве фазы вышкаленьня.

Першая фаза вышкаленьня 1 — 4 тыдні ўва ўсім сваім працягу мае на мэце шкаленьне паасобнага жаўнера (шэрэнговага) ў фармальнай муштры,

страляньні, фэхтаваньні, а шкаленьне роты ў практычнай муштры. У гэтым разе галоўная справа ёсьць у вучэньнях перадпалуднёвых на пляцы вучэньняў, аддаленым ад казармаў, каб адначасна павялічваць маршавую здольнасьць.

Пасьля паўдня робяцца лягчэйшыя вучэньні каля казармаў.

Пасьля 4-х тыдняў робіць пераглад камандзер батальёну, пры чым ня можна вымагаць ад жаўнераў агульнага спаўненьня якіх-небудзь вучэньняў, навет на пробу, бо гэтакім чынам трацяцца ўсялякія карысьці паасобнага шкаленьня.

Другая фаза шкаленьня — 5 — 8 тыдні — гэта вучэньне палявое і баявое.

Раніцою да паўдня — назначаецца вучэньне фармальнае муштры і лягчэйшыя вучэньні каля казармаў, а пасьля паўдня збіраецца рэкрут на баявыя вучэньні, пераплецены гімнастыкай і крыжу фармальнай муштраю.

Праз магазгоднае пераплятаньне вучэньняў дасягаецца рознахарактарнасьць заняцьцяў, што служыць добрым варункам настрою і ахвотаю падчас вучэньняў.

Пасьля 8-х тыдняў пераглядае кампанію дзяжурныштаб-афіцэр D. O. G.,

альбо камандзер палку.

Пад канец кожнага тыдня камандзер кампаніі павінен кантраляваць прынцыповыя вучэньні, вылічаныя ў інструкцыі да фармальнае муштры.

На маршы і страляньні назначаюцца суботы, а так сама і серады.

Дзеля таго, што ня ўся кампанія адначасна бярэ удзел у страляньні, астаўшыйся, свабодны час назначаецца ў распараджэньне камандзера кампаніі на ўнутраную службу і папаўненьне нястачаў вышкаленьня.

Першыя два тыдні нельга жаўнераў выпушчаць з казармаў, дзеля таго, што яны, ня знаючы правілаў, могуць зганьбіць гонар арміі.

Да вартавое службы нельга жаўнераў ужываць раней, як пасьля толькі пяцьтыднёвага вышкаленьня.

На аснове заўсёднага парадку дня і матар'ялу, вызначанага раскладам прадметаў, укладае камандзер кампаніі падробную праграму, ў якой ёсьць тэмы на кожны з асобных дзён і колькасьць часу іх у мінютах.

Падробныя інструкцыі ёсьць у „Показях і крыніцах ля выкладаў і практычных заняцьцяў“.

---

## ПАРАДАК ДНЯ.

*1-шы тыдзень.*

| | |
|---|---|
| 6.00 гадзіна— | Сыгнал. |
| 6.00— 7.30 | Устаюць, апранаюцца, сьнедаюць і парадкуюць казармы. |
| 7.30— 8.00 | Пераглядаюць адзежу, аружжа і г. д. у дружынах. |
| 8.00— 8.45 | Лекцыя. |
| 9.00—11.30 | Практычныя заняцьці на абшары. |
| 11.30—14.00 | Пярэрва, рапарт і палудзень. |
| 14.00—14.45 | Лекцыя. |
| 15.00—17.00 | Практычныя заняцьці ў районе казармаў. |
| 17.00—18.00 | Чыстка аружжа, чыстка абмундзераваньня і перагляд якасьці абмундзераваньня. |
| 18.00—19.00 | Дзенны прыказ і вячэра. |
| 29.00—20.00 | Свабодныя. |
| 10.00—20.30 | Сьпевы. |
| 20.30—21.00 | Паверка, вячэрняя малітва і складваньне адзежы. |
| 21.00 | Адпачынак. |

*Ад 2-га да 4-га тыдня.*

6.00— 8.00 Як вышэй.
8.00—11.30 Практычныя заняцьці на пляцы вучэньня.
Рэшта як вышэй.

*Ад 5-га да 8-га тыдня.*

6.00— 8.00 Як вышэй.
8.00— 8.45 Лекцыя.
9.00—11.30 Практычныя заняцьці.
11.30—14.00 Як вышэй.
14.00—17.00 Практычныя заняцьці на абшары.
Рэшта як вышэй.

## Субота.

Расклад дня залежыць ад мясцовых варункаў, аднак ва ўнутранай службе трэба, як сьлед, пераглядаць якасьць адзежы і рыштунку і штодругі тыдзень правяраць інвэнтар казармаў. На поўдні акуратная чыстка казармаў, праветрываньне матрацаў, пасьцелі, вопратак і г. д. і, калі пазваляюць мясцовыя варункі, купальні, альбо лазьні.

## Нядзеля

7.00 — Сыгнал.
7.00— 8.30 Устаюць і г. д.

| | |
|---|---|
| 8.30— 9.00 | Перагляд дзяжурным афіцэрам. |
| 9.00—10.00 | Набажэнства. |
| 10.15—11.00 | Дзенны прыказ. |
| 11.00—14.00 | Пярэрва, рапарт і палудзень. |
| 14.00—15.00 | Вучэньне аб захоўваньні на вуліцы, практычнае вучэньне, як аддаваць гонар. |
| 15.00—15.30 | Вячэра. |
| 15.30—20.30 | Свабодныя. |
| 20.30 | Як заўсёды. |

## ІНСТРУКЦЫЯ ПАРАДКУ ДНЯ.

Акуратнае выпаўненьне парадку дня ёсьць асноваю ўнутранае службы. Сыстэматычнае, пунктуальнае яго спаўненьне ёсьць важным выхаваўчым способам.

У парадак дня ўплецены заўсёдныя абавязкі шэрэнговага. Кантроль над імі спачывае ў руках дружыновага, дзяжурнага падафіцэра, штабовага сержанта і дзяжурнага афіцэра, як памоцнікаў камандзера кампаніі.

Для спаўненьня гэтых чыннасьцяў назначаецца першыя $1^1/_2$ гадзіны пасьля сыгналу. На кантроль выгляду звонку назначаецца штодня паўгадзіны перад пачаткам заняцьцяў.

Гадзіны 17.00 да 18.00 заўсёды назначаць на чышчэньне аружжа, адзежы, на папраўку абмундзераваньня і пераглядъ якасьцяў.

Перагляд колькасьці робіцца штосуботы. Тады так сама батальённы доктар робіць паасобныя санітарныя агляды.

Дзеля таго, што колькасьць выкладаў „Службы шэрэнговага“ ня ёсьць надта вялізная, трэба яе папаўняць гутаркамі ў гадзіны, назначаныя на чышчэньне і латаньне.

Камандзеру кампаніі можна ўводзіць зьмены ў паказаным парадку дня, асабліва ўзімку ў часе марозу. Прынцыповыя зьмены можна ўводзіць толькі са згодай інспэкцыйнага афіцэра D. O. G.

---

# ПРЫМЕРНЫ ПЛЯН ЛЕКЦЫЯЎ ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ.

## *Гісторыя Бацькаўшчыны і Войска.*

Трэба помніць, што галоўнай мэтай лекцыяў ёсьць паглыбеньне нацыянальнай сьвядомасьці і прабуджэньне ў жаўнерах зацікаўленьня мінуўшчынай і каханьня да Бацькаўшчыны.

На выклад гістарычных падзеяў у 8-м тыднёвых курсах назначаецца па 1 гадзіне ў тыдзень.

*1 гутарка.* Дагістарычныя весткі. Крывічы, як продкі беларусаў. Грамадзянскі лад (веча і князі). Рагвалод —першы гістарычны князь. Славянская граматнасьць і духоўныя школы. Сярэдня-Азіяцкія культурныя ўплывы. Абасабленьне беларускай тэрыторыі са сталіцай у Полацку.

*2 гутарка.* Барацьба за старшынство паміж вечам, князем і дружынай і паміж гарадамі. Палачанскія войны з ліцьвінамі, латышамі, ноўгародцамі і немцамі. Семдзесятгадовая вайна (1054—1127) з Кіевам за незалежнасьць і старшынство. Раздробленьне

не Беларусі. Уплыў Літвы к канцу XII сталецьця. Першыя беларускія вучоныя і літэратары (Кірыл Тураўскі, Клімэнт Смаляціч, Ефрасіньня і Параскева Полацкая і інш.).

*3 гутарка.* Князі Рынгольд і Мендаўг, як заснавацелі Літоўска-Беларускага княжства. Бой каля вёскі Магільнай (1230 г.), як час яго заснаваньня. Перавага беларускай культуры ў Вялікім Княжстве. Рэлігійная верацярпімасьць. Супольныя з ліцьвінамі войны проці крыжакоў, татараў і палякоў. Хрышчэньне Літвы (1386 г.) і народная беларуская мова ў літэратуры.

*4 гутарка.* Жаніцьба Ягайлы з польскаю каралеўнаю Ядзьвігаю. Вітаўт (1392—1430 г.) і яго значэньне. Конституцыйны лад на разваліных фэодальна-удзельнага. Шляхта і сялянства. Паншчына. Грунвальдская бітва (1410 г.). Пачатак 150 гадовай вайны з Масковіяй (1500 г.). „Залаты век"— Ф. Скарына і В. Цяпінскі. Бітва пад Оршай (1514 г.). Бітва пад Полацкам (1562 г.). Фэдэрацыйна - пэрсональная вунія (1567 г.). Царкоўная вунія (1586 г.). Красаваньне культуры. Акадэміі і друкарні.

*5 гутарка.* Польскі палітычна-культурны ўплыў. Заняпад мовы (славяншчына ў царкоўных кнігах і прызнаньне польскае мовы дзяржаўнаю). Здрада шляхецтва і вышэйшых станаў. Сялянскія бунты (1648—1652 гг.). Працяг 150 гадовай вайны. Паход на Беларусь Аляксея Міхайлавіча і Андрусаўская згода 1667 г. Вайна са шведамі (1707 г.). Распад дзяржавы пасьля трох падзелаў Польшчы (1765 г.).

*6 гутарка.* Беларусь пад Расіяй. Дэнацыяналізацыя вышэйшых станаў. Прыкрапленьне сялянства да зямлі. Змаганьне польскай і маскоўскай культураў. Нішчэньне ўсяго беларускага. Несьвядомае адраджэньне з 1861 г. (скасаваньне паншчыны). „Тарас на Парнасе“, Чачот, Баршчэўскі і Вінцук Дунін-Марцінкевіч. Мураўёў-Вешацель (60—90 гг.). Багушэвіч, Нясьлухоўскі і Цётка, як выразіцелі нацыянальнага руху.

*7 гутарка.* Рэволюцыя 1905 г. Рост нацыянальнай сьвядомасьці. „Наша Доля“, „Наша Ніва“ і інш. часопісі. „Беларуская Соцыялістычная Грамада“. Культурныя павадыры нацыянальнага руху: Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Зьмітрок Бядуля

і іх значэньне. Значэньне ўсясьветнай вайны 1914 г. Вышэйшая форма нацыянальнага руху. Нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва.

*8 гутарка.* Агульныя вынікі з гісторыі. Рэвалюцыі 1917 г. ў Маскоўшчыне і іх одгукі на Беларусі. Сучаснае палажэньне, як час разрашэньня нацыянальнага пытаньня. Гісторыя стварэньня Беларускага Войска па загаду Начальніка Польскай Дзяржавы Я. Пілсудскага. Будучына Беларусі.

## Падручнікі:

*Ігнатоўскі.* „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі“.

*Власт.* „Кароткая гісторыя Беларусі“.

*Проф. Доўнар-Запольскі.* „Асновы дзяржаўнасьці Беларусі“.—„Што трэба ведаць кожнаму беларусу“. Зборнік артыкулаў.

*Проф. Любавский.* „Очерк истории Литовско-Русского Государства“.

*Проф. Доўнар-Запольскі.* „Изследования и статьи“.

## Навука аб абавязках жаўнера

Матар'ял трэба выкарыстаць у першыя тры тыдні.

Восем лекцыяў:

1. Бацькаўшчына, Дзяржава, роля арміі ў дзяржаве. Забясьпечаньне граніц і абарона правоў грамадзян.

2. Абавязкі жаўнера. Вайсковая прысяга. Ваенныя артыкулы. Што ўмяшчае 2-гі артыкул.

3. Вернасьць, пакорнасьць.

4. Баявая гатоўнасьць і адважнасьць.

5. Жаўнерскі гонар і таварыства.

6. Нагонкі, дысцыплінарныя і судовыя кары.

7. Дысцыплінарныя кары.

8. Паўторная скарга.

## Крыніцы:

„Ваенныя артыкулы“. Варшава 1919 г.

*Кара* — „Кніжка жаўнера пяхоты“. Варшава 1919 г. (разьдзел апрацованы Падпалкоўнікам Гэнэральнага Штабу Кукелем).

„Дысцыплінарныя і карныя правілы“. Варшава 1919 г.

*Порвіт* — „Афіцэрская служба“, (разьдзел II) 1919 г.

Пры навучаньні рэкрута аб вайсковай дысцыпліне, трэба, як сьлед, яму растлумачыць аб моральным значэньні дысцыпліны, аб яе канечнай патрэбнасьці, якая вынікае з каханьня Бацькаўшчыны.

Патрэбу пакорнасьці апіраць толькі на галоўных, характарыстычных здольнасьцях беларускага жаўнера: чэснасьці, рыцарскасьці, каханьні Бацькаўшчыны, дзеля якой рэкрут павінен быць гатовым у кожную часіну ахвяраваць сваё жыцьцё.

„Дысцыплінарныя карныя правілы для польскай арміі“ выд. І. В. Н. Гэн. Шт. 1919 г.

## Гімнастыка.

Вайсковая гімнастыка ня ёсьць мэтаю, але служыць успамагаючым спосабам пры вучэньні рэкрута.

Згодна з рэгулямінам гэтае вучэньне дзеліцца на: *сыстэматычную гімнастыку, стасаваную і спорт.*

*Сыстэматычная гімнастыка* ўмяшчае вучэньне, якое мае разьвіваць адначасна ўсё цела і апіраецца на асновах анатоміі і фізыялёгіі.

Яна падзелена на групы гімнастычных вучэньняў, якія займаюць паасобныя часьці цела.

Пакуль ня будуць выданы адпаведныя падробныя правілы, трэба вучыць паводле сыстэмаў, дагэтуль ужываных у паасобных аддзелах.

На сыстэматычную гімнастыку трэба ахвяроўваць першыя тры чверці дзенных, практычных заняцьцяў.

Сыстэматычныя вучэньні трэба праводзіць дружынамі і толькі калі яны набяруць лоўкасьці—усёй кампаніяй.

Калі іншыя практычныя заняцьці, асабліва ў другой фазе навучаньня, займаюць у папалудзенных гадзінах зашмат часу, можна на сыстэматычную гімнастыку выкарыстаць 20—25 мінют у першых дзьвёх гадзінах, назначаных на казармовую (ўнутраную) службу (7.00—7.25).

*Стасаваная гімнастыка* ўмяшчае вучэньні, якія ёсьць падгатоўкай да спрытнага перамаганьня перашкодаў у абшары на, так званай, дарозе перашкодаў.

Стасаванай гімнастыкай займацца ў папалудзенных гадзінах практычных заняцьцяў.

Трэба сыстэматычна ўжо ад першага тыдня вучыць у паступовым по-

рамаганьні дарогі перашкодаў з такім абрахункам, каб у канцы VIII тыдня рэкрут умеў спрытна перайсьці ўсё поле. У VIII тыдні трэба навучыць хуткага пераходу, не затрымліваючыся праз поле перашкодаў у поўным рыштунку са стрэльбай.

Дзеля гэтага трэба пры кожным аддзеле наладзіць дарогу перашкодаў згодна з далучанымі прымернікамі.

*Спорт* і лёгкая атлетыка выробляюць спрытнасьць цела наагул, а мэтазгоднае вучэньне надае характар стасаванай гімнастыкі. Гэтыя вучэньні ў свабодныя мінюты ад службы зьяўляюцца важным дзейнікам у фізычным выхаваньні грамадзянства.

## Крыніцы:

„Рэгулямін фізычнага выхаваньня" (ў апрацаваньні).

„Показі да гімнастычных вучэньняў восемтыднёвай праграмы вышкаленьня рэкрута пяхоты" (ў апрацаваньні).

## Фармальная муштра.

Фармальная муштра, як школа ўнутранага парадку і моцнай сувязі,

а так сама, як аснова вайсковай арганізацыі і сілы мае на мэце элемэнтарнае вышкаленьне рэкрута і вырабляе ў жаўнера моральную моц, фізычную вытрымаласьць, самапэўнасьць і тэхнічную спрытнасьць.

Пры вучэньнях фармальнай муштры трэба з усей акуратнасьцю і строгасьцю зьвяртаць увагу на спакой і добрую вайсковую постаць.

Трэба, каб інструктар вучыў кожнага рэкрута асобна, згодна з агульнымі асновамі гэтай праграмы, пры гэтым трэба зьвяртаць асаблівую ўвагу на акуратнасьць спаўненьня вучэньняў. У першых тыднях маршаваць на пляц вучэньняў дружынамі. Да вучэньня трэба ўстаўляць рэкрутаў у належнай фармацыі бяз помачы рэгуляміновых каманд і зваротаў.

Зьбіраньне ў шых рабіць толькі пад канец 2-га тыдня, бо яго зьместам ёсьць постаць, спаўненьне каманды „Зважай“ і раўнаньне, каторыя рэкрут умее толькі пасьля 2-х тыдняў.

Захаджэньне сэкцыямі спаўняць спачатку свабодным, але шпаркім і сьмелым крокам, не вымагаючы роўнага тэмпу.

Ухваты са стрэльбай цэлай кампаніяй спаўняць не раней, як у 7 тыдні.

Пры гэтым трэба глядзець, каб занадта раньнія вымаганьні спаўняць грамадой рухі і ухваты ня мелі дрэннага уплыву на акуратнасьць спаўненьня.

Штодзенна пасьля муштры зрабіць марш (дэфіляду) перад камандзерам аддзелу.

## Крыніцы:

„Пяхота ч. I. Фармальная муштра“. Варшава 1919 г.

*Завадзкі.* „Інструктар пяхоты“. Варшава 1919 г.

*Кара.* „Каманды і прыказы“ (выд. для афіцэраў). Варшава 1919 г.

*Кара.* „Каманды і прыказы“ (выд. для падафіцэраў). Варшава 1919 г.

*Порвіт.* „Афіцэрская служба“. Аддзел III. Варшава 1919 г.

## Школа стральца.

Аснаўной мэтаю шкаленьня стральца ёсьць сыстэматычнасьць у вучэньні цэліцца і супакой пры стрэле.

Вучэньне цэліцца тады толькі мае вартасьць, калі яго праводзіць нядоўга, але затое штодня.

Пэўнасьць у мэтным стрэле вырабляе ў стральца спакойнасьць. У баявой суматосе і знэрваваньні дасьць магчымасьць дысцыплінованаму і роўнамернаму агню толькі пэўнасьць у рэзультатнасьці зробленага стрэлу. Вучэньне цэліцца трэба рабіць штодня бязупынна праз усе 8 тыдняў вучэньня, асабліва ў тых тыднях, калі праграма патрабуе школьнага страляньня.

Ацэнка адлегласьці адбываецца, па магчымасьці, штодня ў полі і кожны раз на іншым абшары.

Спачатку, паказаўшы расстаўленых людзей, вырабіць у рэкрута паняцьце аб адлегласьці 50, 100, 200, 300, 400 мэтраў. Прынцыпова вырабіць умеласьць акрасьляньня адлегласьці 100, 200, 300, 400 і 600 мэтраў у абшары роўным і неаднальковым.

## Крыніцы:

„Стралецкія правілы“. Варшава 1919 г.

*Завадзкі.* „Інструктар пяхоты ч. II“. Варшава 1919 г. („Стралецкая інструкцыя“, Кракаў 1916 г. гэтых карысных старон ня мае, трэба з яе браць толькі балістычныя даныя, але ня сыстэму навукі).

„Праваднік жаўнера пяхоты". Варшава 1919 г.

## Палявая служба.

Перад кожным вучэньнем трэба сказаць вусную інструкцыю.

Разьведкі, служба патрулёў, даясеньні.

Маршы, маршавы парадак, палёгкі, супачынак.

Палявая варта і перадавыя пасты.

Забясьпечаныя маршы, служба перадавога і маршавых патрулёў.

Служба лучнасьці.

Вайсковыя чыгуначныя транспарты.

Бівакі і кватарунак.

## Крыніцы:

„Палявая служба". Варшава 1919 г.

*Завадзкі.* „Інструктар пяхоты ч. III". Варшава 1919 г.

*Эльсэнбэрг.* „Пешы разьведачны патруль". Кракаў 1919 г.

*Эльсэнбэрг.* „Палявая пяхотная варта". Варшава 1919 г.

Наогул пры стралецкіх вучэньнях і ў палявой службе трэба памятаць, што галоўнаю мэтаю ўсіх гэтых ву-

чэньняў, ёсьць выробленьне карыснага, здатнага до бою жаўнера. Дзеля гэтага яны ёсьць найважнейшымі з усіх галін вайсковага выхаваньня, бо прыгатаўляюць жаўнера да бою, да вытрываласьці ў маршы, да спакойнага і мэтнага страляньня, да ўмелага выкарыстаньня свайго агню, да бою ў полі.

Паказаныя ў праграме вучэньні трэба рабіць заўсёдна і акуратна.

Тэорэтычныя навучаньні абмяжоўваюць толькі рэчамі канечна патрэбнымі.

Выкарыстваць здольнасьці адзінак, прызвычайваць да мысьленьня і самастойнасьці, паглыбляць вышкаленьне і ўважна глядзець, каб шкаленьне ня было мэханічным, бяздушным завучваньнем без патрэбнага зразуменьня зьместу тэй рэчы, якой вучаць.

## Школа бою.

Абавязкі ў тыральерах, лучнасьць. Падаваньне прыказаў, супольнае дзеяньне ротаў.

Руховы бой пяхоты, супольнае дзеяньне кулямёту і артылерыі.

Узмацаваньне руховага бою.

Служба лучнасьці.

Школа бою ёсьць істотаю пяхотнага жаўнера.

Вышкаленьне трэба ад першай лекцыі весьці на абшары.

Трэба выкарыстаць кожны школьны марш, ці так сама на стрэльбішча, бо толькі вучэньне на розных абшарах вучыць орыентавацца ў абшары і ўмець выкарыстаць яго асаблівасьці.

У часе шкаленьня найменшаю адзінкаю ёсьць рота. Усякія элемэнты бою трэба спаўняць у роце, пераходзячы паступова ад разьвінутага шыху, праз усялякія рухі па за сфэраю непрыяцельскага агню і ў яго сфэры аж да атакі, ўдагоначнага агню і збору.

Як толькі жаўнеры зразумеюць даныя вучэньні—трэба іх далей весьці, як дробныя тактычныя задачы. Навучыць жаўнера, што такое сытуацыя, як яе разумець, а далей паасобныя формы тактычнае муштры пераносіць у раней абдуманыя сытуацыі, па магчымасьці, праціўніка (флагі).

Рамаю ўсіх дзеяньняў шэрэнговага ў баі ёсьць сэкцыя, хаця супольнае дзеяньне з другім жаўнерам у роце ёсьць заўсёдным абавязкам шэрэнговага.

Трэба зьвяртаць асаблівую ўвагу на падаваньне прыказаў і данашэньне ў баі, як на школу лучнасьці.

Нарэшце, трэба зрабіць, прынамсі, адно начное вучэньне.

Улучыць у баявыя вучэньні страляньне пустымі набоямі.

## Крыніцы:

*Ровэкі*. „Палявая фортыфікацыя“. „Пяхота“ ч. II. Школа бою. Варшава 1919 г.

*Завадзкі*. „Інструктар пяхоты“. Варшава 1919 г.

*Кара*. „Каманды і прыказы“. Варшава 1919 г.

*Кара*. „Праваднік жаўнера пяхоты“. Варшава 1919 г.

## Пазыцыйны бой.

Штурмавыя аддзелы.

Ручныя гранаты, іх ужываньне (табліцы, рысункі, модэлі).

Іншыя роды аружжа і межы іх дзеяньня.

Успамагальныя спосабы пазыцыйнага бою. Газы. Бомбакіды, гранатакіды. Танкі.

Служба лучнасьці.

Капаньне стралецкіх равоў.

Восемтыднёвае вучэньне абнімае адно элемэнтарнае прыспасабленьне рэкрута да бою ручнымі гранатамі і азнаемленьне яго з умацаваньнем рухавага і пазыцыйнага бою.

Пры вучэньні трэба зьвяртаць увагу на паказаныя ў кніжцы правілы пар. Садоўскага „Сэкцыйны штурмовае сэкцыі", як тымчасовую інструкцыю.

Навучыць ужываць ручную гранату ў руховым баі, напр. бой у мясцовасьці, за дамы і будоўлі на штурмовым пляцы, наладжаным згодна з далучаным апісаньнем.

## Крыніцы:

„Пяхота. Школа бою". Варшава 1919 г.

*Садоускі.* „Сэкцыйны штурмавой сэкцыі". Варшава 1919 г. (Вайсковая Кнігарня).

Пры вучэньнях у школе бою трэба мець на ўвазе, каб інструктар не кіраваў кожным крокам рэкрута, але, даўшы яму агульныя паказаньні, і вызначыўшы яму конкрэтна задачу,

аддаў уласнай дагадлівасьці рэкрута яго захоўваньне ў дэталях.

Прызвычайваць рэкрута да таго, каб ён навучыўся самастойна ацэньваць акалічнасьці і спосаб свайго захаваньня ў баі да іх дапасоўваць.

Дзеля гэтага трэба зьвяртаць увагу, каб у часе вучэньняў мысьлі слухачоў інструктар заўсёды трымаў у пад'ёме, часта зьвяртаўся да іх з пытаньнямі і прапазыцыямі растлумачыць данае зьявішча.

Спачатку трэба задаваць пытаньне, а пасьля выклікаць па прозьвішчы, каб гэткім чынам змусіць усіх прымаці дзейнае учасьце ў заняцьцях.

## Служба шэрэнговага.

41 тэмаў (глядзі тыднёвую праграму).

## Крыніцы:

*Кара.* „Праваднік жаўнера пяхоты". Варшава 1919 г.

*Завадзкі.* „Як вучыць жаўнера". Варшава 1919 г.

„Абавязкі дружыновага".

„Жаўнерскі календар на 1919-20 г.".

## Вартавая служба.

Варты, іх мэта і род.

Звычайны пост і вартаўнік.

Абавязкі вартаўніка; зьмена варты і вартаўніка (практычна).

Паўтарэньне, ўжываньне аружжа і захоўваньне ў часе арэшту.

## Крыніцы:

„Гарнізонная служба“. Варшава 1919 г.

*Кара.* „Праваднік жаўнера пяхоты“. Варшава 1919 г.

## Фэхтаваньне.

Фэхтаваньне, апрача чыста практычнага ўжытку, мае важнае выхаваўчае значэньне, выра6ляючы самапэўнасьць і веру ва ўласныя сілы.

Як мага найчасьцей вучыць фэхтаваньню. Штодня вучыць кожнага рэкрута паасобку калоць штыхом саламяныя манэкэны, пры гэтым зьвяртаць увагу на хуткі, энэргічны, як сьлед, выпад, моцнае і пэўнае трыманьне стрэльбы, правільны, шпаркі удар.

Па кожнай парадзе — зараз-жа кальнуць.

Рабіць рукапашны бой вучэбнымі штыхамі.

Фэхтаваньне паводле нямецкіх нормаў.

## Крыніцы:

Адпаведныя інструкцыі ў апрацаваньні.

## Стрэльба і тэорыя страляньня.

Значэньне стрэльбы. Часткі стрэльбы.

Прыцэльныя прылады: цэльнік і мушка. Прынцыпы балістыкі, дарога кулі.

Разборка і чышчэньне аружжа (практычна).

Асновы прыцэлу, тонкая і грубая мушка; павышэньне і паніжэньне, прыцэл ніжэй 400 мэтраў.

Паўтарэньне апісаньня аружжа; дзеяньне кулі.

Дзеяньне аднэй і некалькіх стрэльбаў.

## Крыніцы:

„Стралецкія правілы". Варшава 1917—1919 г. (для Маузэра).

„Стралецкія інструкцыі". Кракаў 1916 г. (Манліхэр).

„Табліца Маузэра".

„Табліца францускай стрэльбы" М. 16 (у друку).

На сьценах заляў трэба павесіць табліцы з рысункамі стрэльбы, разьмерамі мэтаў, дарогай кулі, а так сама нахіленьняў мушкі (гл. „Стралецк. інстр. стр. 1. п. 1).

---

Акуратным спаўненьнем і мэтазгодным стасаваньнем галоўных правілаў, памешчаных у паасобных разъдзелах вышэйшай праграмы дойдзем да свае мэты,—значыцца:

Падымем патрыятычны дух у арміі, адначасна вышкаліўшы рэкрута, як сьвядомага ў сваіх абавязках, пакорнага і дзейнага жаўнера, каторому можна даверыць у жудасных часінах бою, калі яго ня бачыць камандзер.

Спаўненьне гэтае праграмы абавязкова ад дня апавяшчэньня.

Варшава 19 кастрычніка 1919 г.

Міністар Вайсковых Справаў
(—) *Лесьневскі*
Гэнэрал-паручнік.

З арыгіналам згодна:
*Фройгліх*
Ппалк. Гэн. Шт. і Шэф
Сэкцыі Рэг. і Вышкаленьня
Дэп. I.

---

# ДАДАТАК ДА ВОСЕМТЫДНЕВАЙ ПРАГРАМЫ ВЫШКАЛЕНЬНЯ РЭКРУТА ПЯХОТЫ.

## Аркуш 1. Вучэньне з ручнымі гранатамі.

1) Пачынаць гэтыя вучэньні ад кіданьня на адлегласьць, стараючыся навучыць жаўнера кідаць старанна. Дзеля гэтага трэба загадаць яму кідаць вучэбныя гранаты (драўляныя нормальнае формы і вагі), а пасьля сьляпыя (з капсулькай) на штораз большай адлегласьці, пачынаючы ад 15 мэтраў на спэцыяльным пляцы, утвораным дзьвюма ўмацованымі на зямлі ў адлегласьці двох мэтраў ад сябе, паўзьбежнымі драўлянымі ліштвамі, злучанымі што 5 мэтраў папярэчнымі ліштвамі. Жаўнер кідае спачатку з пункту А) а пасьля з пункту Б) на кожную адлегласьць, стараючыся кі-

дацъ гранату пад кутом, зблі́жаным да 45°/₀, з пагляду на драцяныя перашкоды.

2) Перакіданьне праз перашкоды і драцяныя сеткі — гэта ёсьць другі этап навукі. Трэба пачаць кідаць гранаты ад месца, дзе акопы найбольш зблі́жаюцца да сябе, а пасьля паступова аддаляюцца, вучачы жаўнера кідаць проста і наўскос, перакідаць гранату праз папярэчніцу і г. д. Трэба, каб граната рабіла, як найбольшую, дугу ў паветры і трапіла-б акуратна ў азначанае месца, дзеля гэтага трэба расьцягнуць паміж акопамі (уздаўжкі лініі Б—Б) драцяную сетку вышынёю 4 мэтры, а ў іншых мясцох акопаў устаўляюцца фігуркі кшталтам непрыяцельскіх жаўнераў. У далейшых студыях навукі трэба застасаваць вучэньні двастароньнія—з вучэбнымі і сьляпымі гранатамі, каб прызвычаіць жаўнераў сьцерагчыся ад снарадаў, адкідаць іх перад узарваньнем.

3) *Укіданьне гранатаў у будоулі.* У баі, які вядзецца на ўсходнім фронце надта важнай справай ёсьць здабываньне пунктаў, дзе жывуць людзі і паасобных дамоў. Дзеля гэтага трэба вучыць жаўнераў кідаць ручныя гра-

наты ў розныя выразы ў сьценах, павялічваючы паступова адлог кіданьня.

4) *Кіданьне у жывыя мэты.* (Фігурныя шчыты), угрупованыя свабодна кіраўнікам вучэньня. Ідзе аб тое, каб жаўнер хутка з'орыентававўся у якую мэту трэба кінуць. Граната разарвецца беспасярэдня пры данай мэце — траплянньне ў самую мэту ня ёсьць канечна патрэбным.

5) *Пляц да кіданьня вострымі гранатамі* павінен быць заложаны ў нейкім адлозе ад рэшты штурмавых прыладжаньняў і забясьпечаны ад няшчасных здарэньняў. Жаўнер кідае з лейкі ад гранаты на паступова штораз далейшы адлог, стараючыся трапіць у паказаны дол і хаваючыся за малым насыпам пасьля кожнага кіданьня. Обсэрватар, які знаходзіцца ў рове, побач таго хто кідае, глядзіць у пэрыскоп, запісваючы рэзультат кіданьня. Напр.: 3 кіданьні, граната стылісковая, кіданьне з лейкі, дол № 2, адзін трапіў.

Апрача паказаных на першым аркушы дэталяў штурмавога поля, можна, ў залежнасьці ад абшару, стасаваць і іншыя наладжаньні: умацова-

ную дзялянку акопаў (двастаронную) са штучнымі перашкодамі, рэзэрвовай лініяй, зямлянкамі, становішчамі для кулямётаў, мінакідаў і гранатакідаў і г. д. Акопы ў лесе; узмацованы ўзгорак; лейкаватае поле і г. д. Вучэньні трэба як найболыш разнаабразіць, пакідаючы з гэтага боку шмат самастойнасьці камандзерам, аднак акуратна дапасоўваючыся да зробленай імі самімі падробнае праграмы.

## Аркуш II. Шлях перашкодаў.

Шлях перашкодаў мае на мэце азнаямленьне жаўнера з тымі сытуацыямі, ў якіх ён можа апынуцца ў баі — выпрацоўвае адвагу, лоўкасьць, пруткасьць, уменьне прытарнавацца да варункаў абшару, ўрэшце прызвычайвае яго перамагаць уласнае змораньне. Дзеля гэтага трэба, калі можна, штодзенна ахвяроўваць на шляху перашкодаў хоць некалькі мінют часу, што, апрача вышэйпералічанага, будзе для жаўнера пажаданай рознасьцю вучэньняў. Побач са шляхам перашкодаў трэба збудаваць гімнастычныя прылады: слуп з перакладзінамі, слуп, сукаватае дрэва, пахілыя драбіны, проста-

падныя драбіны, канаты, хістаючыяся кіі і ўмацованыя трапэцыі, бар‘еры, конь, прылады для дзыганьня на адлог і на вышыню і г. д. Вучэньні на шляху перашкодаў трэба папераджаць гімнастычнымі вучэньнямі на прыладах. Самы шлях перашкодаў трэба пачынаць пераходзіць бяз рыштунку і аружжа—ў летніх вопратках, затрымліваючыся на кожнай дзялянцы шляху. Зьвяртаць тут трэба увагу на хуткасьць і ціхасьць пры пераходзе кожнае перашкоды, далей паступова абцяжарыць жаўнера і загадаць яму пераходзіць штораз даўжэйшыя дзялянкі шляху. Нарэшце, можна рабіць рэкорды на час, ганячы, аднак, калі перамаганьне перашкодаў будзе занадта галасьлівым.

НБ. Перашкоды з дроту, сілкі, засекі, заваленыя месцы трэба рабіць з гладкага дроту дзеля абароны адзежы ад зьнішчэньня.

